



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

15 сакавіка 2019 года №11 (1246) 18+


# Праверце, ці корміце вы дзіця небяспечнымі прадуктамі



Нават дзіцячыя малочныя прысмакі трэба правяраць на тэрмін прыдатнасці.

старонка 3

Маленькага маладзечанца Максіма СЦЕБУРАКУ корміць брат Глеб. Фота Ілоны СЦЕБУРАКІ.

## Як выбраць ВНУ абітурыенту на інвалідным вазку

старонка 19



ISSN 1991–7155

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## У Крэўскім замку развалілася частка кансервацыйнай муроўкі

**СМАРГОНЬ**

Пытанні кшталту «што здарылася ў Крэўскім замку?» пачалі з'яўляцца ў сацыяльных сетках днямі.

На сваёй старонцы ў фэйсбуку сітуацыю патлумачыў супрацоўнік НАН Беларусі, заўсёдны кіраўнік летніх раскопак у Крэве **Алег Дзярновіч**.

Па яго словах, у апошнія выхадныя абвалілася частка кансервацыйнай муроўкі Крэўскага замка каля паўднёва-заходняга вугла. Гэту частку сцяны абкладалі камянямі ў самым канцы мінулага года.

Пра здарэнне Алег паведаміў навуковаму кіраўніку праекта **Уладзіміру Сіняўскаму**.

Архітэктар прызнаўся, што тэарэтычна дапускаў такі вынік, бо гэты кавалак муру кансервавалі ў самым канцы 2018 года, калі ўжо былі першыя маразы.

Фрагмент новай муроўкі падмарозіла, і ён не вытрымаў сёлетніх веснавых перападаў.

– Што ж, гэта гісторыя яшчэ раз паказвае, наколькі важна вытрымліваць тэхналогіі, – кажа Алег.

Цяпер Белрэстаўрацыя распрацоўвае меры, каб ліквідаваць абвальванне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Філіял Маладзечанскага малочнага камбіната ў Вілейцы не закрываюць

**МАЛАДЗЕЧНА ВІЛЕЙКА**

Інфармацыя пра закрыццё Вілейскага філіяла Маладзечанскага малочнага камбіната – чуткі і здагадкі.

Завод будзе працаваць у штатным рэжыме. Такі адказ па праблеме, з якой звярталіся вілейчане падчас акцыі БЕЛТА «Ваша пытанне Прэзідэнту», дала карэспандэнту начальнік вілейскага вытворчага ўчастка **Марына Вазняк**.

Паступіла некалькі аналагічных пытанняў ад рабочых вытворчага ўчастка Вілейскага філіяла Маладзечанскага малочнага камбіната з просьбай разабрацца ў праблеме закрыцця прадпрыемства.

Па словах тых, хто звярнуўся, завод у бліжэйшы час можа спыніць працу, больш за 200 чалавек страцяць працоўныя месцы.

«У нашых рабочых няма падстаў для хвалявання – прадпрыемства будзе функцыянаваць у штатным рэжыме. Пакуль не плануем праводзіць скарачэнні працоўных месцаў, не будзе і звужэння асартыменту прадукцыі.

Магчыма, чуткі паўсталі з-за невялікіх змяненняў фронту працы вілейскіх спецыялістаў. Справа ў тым, што перыядычна людзі адпраўляліся на працу ў валожынскі філіял, паколькі прадпрыемства выконвала буйны заказ на пастаўку малочнай прадукцыі ў Расію. Частку сыравіны рэгіёна таксама адпраўлялі на вытворчасць у суседні горад з гэтых жа прычын. Такія часовыя змены маглі справакаваць здагадкі наконт закрыцця прадпрыемства ў Вілейцы. Але гэта няпраўда.

Ужо ў хуткім часе пачнецца сезон вялікага малака, таму аб'ёмы сыравіны і прадукцыі вырастуць – работы хопіць усім», – патлумачыла Марына Вазняк.

Сёння ў штаце вытворчага ўчастка 216 чалавек. У 2009 годзе ў сувязі з рэарганізацыяй Вілейскі гармалзавод перайменавалі ў Вілейскі філіял Маладзечанскага малочнага камбіната. Прадпрыемства арыентаванае на выпуск масла рознай тлустасці, тварагу і тварожных дэсертаў.

**Паводле БЕЛТА.**

## 29 сакавіка ў Вілейцы правядуць бізнес-форум

**ВІЛЕЙКА**

29 сакавіка ў Вілейцы правядуць бізнес-форум «Канструктыўны дыялог «Развіваем рэгіёны».

Правядзенне бізнес-форуму, на думку арганізатараў мерапрыемства Вілейскага райвыканкама і грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна «ЗОВіК», павінна спрыяць росту бізнес-актыўнасці ў рэгіёне і наладжванню канструктыўнага дыялогу паміж прадстаўнікамі малога і сярэдняга бізнесу і ўлады.

Рэгістрацыйная форма для ўдзельнікаў Вілейскага бізнес-форуму.

Дата правядзення 29 сакавіка. Колькасць месцаў абмежаваная.

**Паводле zovik.by.**




Гэта ўжо чацверты канверт, які вярнуўся да маладзечанца з Данецка.

# «З Данецка лісты вяртаюцца ўжо некалькі гадоў»

**Калі пачаўся ўзброены канфлікт ва Украіне, маладзечанец Аляксандр Салагуб некалькі разоў спрабаваў звязацца са сваім былым напарнікам па шахце Пятром Якавенкам, які жыве ў Данецку. Але марна, ад 2014 года лісты да горада не даходзяць.**




Паштовая скрыня ля аднаго з гандлёвых цэнтраў у Маладзечне.

**МАЛАДЗЕЧНА**

Да канфлікту ва Украіне Салагуб перапісваўся з напарнікам, кажа, заўжды лісты прыходзілі спраўна. Але апошнія некалькі гадоў сітуацыя змянілася. Чатыры лісты вярнуліся прыкладна ў 2014-2016 гадах са спасылкай на цыркуляр №7 Укрпошты.

> Цыркуляр №7 прадугледжвае, што ад 20 лістапада 2014 года ў шэрагу населеных пунктаў Данецкай і Луганскай абласцей не працуюць паштовыя аддзяленні. Пераводы і адпраўленні можна атрымаць у аддзяленнях, падкантрольных украінскай уладзе. Пры адпраўленні трэба пазначаць прозвішча, імя і імя па бацьку, назву населенага пункта, падкантрольнага ўкраінскаму кіраўніцтву, вобласць, раён, адрас пошты, індэкс, краіну, стацыянарны ці мабільны нумар атрымальніка (для апавяшчэння аб прыбыцці).

– 31 жніўня 2014 года – у апошнюю нядзелю жніўня – адзначалі Дзень шахцёра. Таварыш патэлефанаваў на мабільнік, павіншаваў. Ад гэтага часу сталі гутарыць па тэлефоне, скайпе, апошнім часам нават вайберы.

> **Але нядаўна я ўспомніў старую перапіску, кажу: «Давай, Пеця, паспрабую табе напісаць, цікава, ці атрымаеш», – расказвае Аляксандр Салагуб.**

Да напарніка блакітны канверт зноў не дайшоў. Ліст з Данбаса вярнуўся ў Маладзечна. Салагуб пайшоў на пошту, спытаўся, чаму вярнулі ліст. Яму адказалі, што прыйшла інструкцыя, у некаторыя гарады Данецкай і Луганскай абласцей лісты з Беларусі адправіць немагчыма.

– У Данецкую і Луганскую вобласці сапраўды забаронены прыём карэспандэнцыі. Вяртае апаратар Украіны, не мы. Ёсць спіс раёнаў, у якія адпраўленні не дастаўляюць. Яго можна знайсці на сайце Белпошты, – паведамілі нам у аддзяленні паштовай сувязі №4 РУП «Белпошта».

Калі ўсё ж неабходна адправіць ліст, а паштовыя аддзяленні па розных прычынах не працуюць у патрэбным населеным пункце, Укрпошта прапаноўвае адрасаваць адпраўленні ў іншыя аддзяленні, «да запатрабавання», з указаннем нумара тэлефона атрымальніка. Таксама сярод абавязковых умоў – адрасант павінны ўзгадніць з адрасатам адпраўку і паштовае аддзяленне, у якім яе можна забраць. І пазначыць на адпраўленнях нумары тэлефонаў адрасата, каб той ведаў, што пасылка дайшла.

– Пасылкі і лісты патрэбныя ўсім. Людзі хочуць кантактаваць, але не заўжды могуць. Заўважу, раней, да вайны, мы маглі атрымліваць газеты з Украіны, маглі іх выпісваць. На жаль, сітуацыя змянілася. Можна, канешне, камунікаваць праз інтэрнэт, але нават так не з усімі можна пагутарыць. Напрыклад, з роднымі з Палтавы такім чынам звязацца не магу, бо Украіна перакрыла інтэрнэт, – дзеліцца кіраўнік культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў «Краяны» **Леанід Лысакабылка**. – Расія для Украіны з'яўляецца агрэсарам. Уявіце, каб падчас Вялікай Айчыннай вайны з Германіі прыходзілі лісты, напрыклад, у Маскву. Тое ж і ва Украіне цяпер. А Беларусь знаходзіцца ў моцным саюзе з Расіяй. Фактычна, Украіна вельмі хоча, каб Беларусь была для яе сябрам, але словы – словамі, а справы – справамі.

Поўны пералік гарадоў Укрпошты, у якіх не працуюць паштовыя аддзяленні, таксама можна знайсці на сайце ukrposhta.ua.

*Ці ёсць у вас блізкія, якія жывуць у зонах узброеных канфліктаў? Як вы з імі звязваецеся? Дасылайце свае гісторыі на e-mail* ***regionnews@gmail.com*** *або тэлефануйце* ***(8-0176) 53-78-06, (8-029) 676-84-20.***

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

ТЭМА НУМАРА

# Праверце, ці корміце вы дзіця небяспечнымі прадуктамі

## Тваражкі сярод прадуктаў, на якія часта скардзіліся

**З якімі скаргамі і на якія прадукты найчасцей звярталіся летась, распавялі ў Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.**

Агулам за 2018 год спецыялісты разгледзелі 36 зваротаў, якія тычыліся прадуктаў. Доктар-гігіеніст аддзялення гігіены харчавання **Кацярына Пташнік** распавяла, што скаргі ў асноўным былі на пратэрмінаваныя прадукты. Іх купілі ў крамах сеткавага гандлю.

Пераважна сярод пратэрмінаваных прадуктаў былі малочныя вырабы – тваражкі, ёгурты. Небяспека ў тым, што такой ежай кормяць самых маленькіх жыхароў. Таму маладым бацькам трэба быць асабліва пільнымі і ўважліва вывучаць этыкеткі тавараў. У гэты спіс трапілі таксама кілбасныя вырабы і алкаголь.



Праверце тэрмін прыдатнасці малочнага вырабу, перш чым карміць дзіця і есці самім.

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

> **Доктар-гігіеніст падкрэсліла: каб звярнуцца ў Цэнтр гігіены са скаргай, неабходна мець не толькі сам тавар, але і захаваць чэк. Гэты дакумент пацвярджае, што вы купілі прадукт менавіта тут.**

Са скаргамі на тое, што даты тэрмінаў прыдатнасці замазваюць ці пераклейваюць, у маладзечанскі цэнтр не звяртаюцца. Але і гэта парушэнне можна праверыць. Тэрміны на любы тавар можна спраўдзіць у суправаджальных дакументах, якія павінны быць у кожным магазіне.

### Памятайце аб правах спажыўца

Некаторыя спажыўцы робяць пакупкі праз інтэрнэт. Многія ацанілі наколькі гэта зручна – атрымліваеш тавар з дастаўкай і не трэба бегаць па крамах у пошуку патрэбнай рэчы.

> **15 сакавіка – Сусветны дзень абароны правоў спажыўцоў.**

У адпаведнасці з Законам «Аб абароне правоў спажыўцоў» спажывец мае права на свабоду выбару тавару, якасны і бяспечны тавар, на атрыманне поўнай, дакладнай інфармацыі аб тавары, а таксама пра яго вытворцу і пастаўшчыка.

### Як абараніць сябе ад кепскіх тавараў

Каб па магчымасці абараніць сябе ад небяспечнай прадукцыі, пакупнікам варта выконваць простыя рэкамендацыі:

- Звяртайце ўвагу на тару і ўпакоўку харчовай прадукцыі. Яна павінна быць трывалай, чыстай, сухой, без пабочных пахаў і парушэнняў цэласнасці.
- Усю харчовую прадукцыю павінны суправаджаць этыкеткі, таварныя ярлыкі або лісты-ўкладышы.
- Прадаваць тавар павінны пры неабходных тэмпературных і вільготнасных умовах. Замарожаныя прадукты, а таксама тыя, што псуюцца хутка і асабліва хутка, неабходна захоўваць ва ўмовах астуджэння.
- Асаблівую ўвагу звяртайце на тэрмін прыдатнасці тавару. Не забывайце і пра тое, што дата расфасоўкі – гэта не дата вырабу. Прадукт можа быць зроблены ў адзін час, а расфасаваны ў іншы.
- Пры захоўванні тавараў трэба выконваць правілы таварнага суседства. Харчовыя прадукты, што маюць спецыфічны пах, варта захоўваць асобна ад тых, што ўспрымаюць пахі. Сырыя прадукты і паўфабрыкаты – асобна ад гатовай да ўжывання ежы.

### Куды скардзіцца на няякасныя тавары

У Маладзечне ёсць гарачая лінія па пытаннях спажывецкай тэматыкі.

Звяртайцеся ад 8:00 да 9:00 і ад 15:00 да 17:00 па тэлефоне (80176) 54-41-97.

**Эмілія ХВОЯ.**

ЛІЧБА НУМАРА



**38,9%**

доля расходаў на харчаванне у структуры спажывецкіх расходаў на гаспадарку ў 2018 годзе.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.03 | 14.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.1414 | **2.1349** |
| **Еўра** | 2.4202 | **2.4108** |
| **Злоты, 10** | 5.6292 | **5.6062** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.2518 | **3.2578** |
| **Грыўня, 100** | 8.0853 | **7.9824** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **6.03** | **13.03** |
| **Еўра** | 2.4100/2.4320 | **2.3950/2.4150** |
| **Долар ЗША** | 2.1300/2.1470 | **2.1300/2.1470** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **6.03** | **13.03** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 18,99 | **18,99** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,90 | **3,50** |
| **Сасіскі «Малочныя», 1 кг** | 7,55 | **7,55** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 10,00 | **10,00** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 4,70 | **4,70** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Селядзец, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 14,80 | **14,80** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 1,15 | **1,15** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 1,85 | **1,85** |
| **Алей, 1 л** | 3,00 | **3,00** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,15 | **2,15** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,60 | **1,60** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,80 | **1,80** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 2,00 | **2,00** |
| **Агуркі, 1 кг** | 4,70 | **4,90** |
| **Баклажан, 1 кг** | 6,90 | **7,50** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,50 | **0,50** |
| **Буракі, 1 кг** | 0,80 | **0,80** |
| **Капуста, 1 кг** | 1,20 | **2,69** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,30 | **2,50** |
| **Морква, 1 кг** | 0,99 | **0,99** |
| **Памідоры, 1 кг** | 3,90 | **3,50** |
| **Перац, 1 кг** | 7,90 | **7,50** |
| **Радыс, 1 кг** | – | **2,50** |
| **Салата, 100 г** | – | **1,39** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,20 | **1,20** |
| **Часнок, 1 кг** | 4,90 | **4,90** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 5,90 | **5,50** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 3,30 | **3,30** |
| **Бананы, 1 кг** | 2,90 | **2,50** |
| **Вінаград, 1 кг** | 3,50 | **5,50** |
| **Грушы, 1 кг** | 3,50 | **2,95** |
| **Ківі, 1 кг** | 3,90 | **3,90** |
| **Лімоны, 1 кг** | 3,50 | **3,80** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 2,90 | **3,30** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 1,45 | **1,45** |
| **Грэцкі арэх, ядро, 1 кг** | 25,00 | **25,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,50 | **1,50** |
| **Масла, 1 кг** | 15,00 | **15,00** |
| **Сала, 1 кг** | 12,50 | **12,50** |
| **Сыр, 1 кг** | 12,00 | **12,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 7,00 | **7,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 3,00 | **3,00** |

## Віляйчанін збіў дзяўчынубармена ў бары. Яго чакае суд

ВІЛЕЙКА

Крымінальную справу перадалі ў суд 5 сакавіка. Фігурант і пацярпелая – жыхары Вілейкі.

Бойка здарылася ў вілейскім бары «Дубочак» ноччу 20 студзеня, расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

44-гадовы віляйчук выпіў і заснуў на барнай стойцы. Дзяўчына-бармен пачала яго будзіць.

Калі мужчына прачнуўся, нецэнзурна вылаяўся, стукнуў яе спачатку нагой у грудзі, а потым кулаком у галаву.

Дзяўчыне дапамаглі два наведнікі бара. Яны трымалі крыўдзіцеля, пакуль прыедзе міліцыя.

Па словах Андрэя Жукоўскага, фігурант прызнаў сябе вінаватым. Але тое, што пабіў дзяўчыну, не памятаў.

Абвінавачаны раней быў судзімы за забойства з асаблівай жорсткасцю і рабунак. Стаіць на ўліку ў доктара-нарколага.

За хуліганства ў «Дубочку» яму пагражаюць грамадскія работы або штраф ці выпраўленчыя работы на два гады, або арышт, або абмежаванне волі да двух гадоў ці пазбаўленне волі да трох гадоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Затрымалі самагоншчыка

МАЛАДЗЕЧНА

Незаконны бізнес спрабаваў наладзіць 28-гадовы маладзечанец у вёсцы Забалацце Цюрлёўскага сельсавета.

На дачным участку міліцыя знайшла 1350 літраў брагі.

Па словах уладальніка, сурагат ён вырабіў для кармлення жывёлы. Аднак аб'ёмы брагі выклікалі ў міліцыі сумнеў.

Міліцыянеры склалі пратаколы за выраб самагону і захоўванне самагоннага апарата. Гаспадар участка і раней прыцягваўся да адказнасці за парушэнні антыалкагольнага заканадаўства.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Дзевяцікласнік і дзевяцікласніца скралі ў госця горада кашалёк

ВАЛОЖЫН

У міліцыю звярнуўся 35-гадовы жыхар Гродзенскай вобласці. Ён распавёў, што на аўтавакзале ў Валожыне ў яго скралі кашалёк са 150 рублямі. Заяўнік падазрае малады людзей, што круціліся непадалёк.

Следча-аператыўная група выехала на месца здарэння. Прыкметы былі перададзеныя ўсім нарадам. Падазроныя трапіліся на вочы інспектару **Віталю Пашкоўскаму**, які і затрымаў іх.

У міліцыі высветлілася, што аматарамі лёгкай нажывы сталі хлопец і дзяўчына – дзевяцікласнікі адной са школ. Завялі крымінальную справу.

**Паводле mlyn.by.**

## Сутыкнуліся тры аўтамабілі

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося каля Лукаўца 4 сакавіка.

Тры машыны ехалі адна за другой. У пэўны час кіроўца першага аўто прытармазіў, за ім прытармазіў наступны. А кіроўца трэцяга аўтамабіля, жыхарка Мядзельшчыны, прытармазіць не паспела, распавялі ў Вілейскім РАУС.

У выніку два «Опелі» і «Рэно» пашкоджаныя. Самі ўдзельнікі здарэння не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўцу з машыны даставалі выратавальнікі

ВІЛЕЙКА

11 сакавіка раніцай каля 7:30 выратавальнікам паведамілі пра дарожна-транспартнае здарэнне паблізу вёскі Новая Гута Вілейскага раёна.

Трэба было дэблакаваць пацярпелага. Калі падраздзяленні МНС прыехалі да месца выкліку, стала вядома, што сутыкнуліся два легкавыя аўтамабілі.

Работнікі МНС пры дапамозе адмысловай прылады з аўтамабіля «Таёта» дасталі 36-гадовага кіроўцу. Пацярпелага з траўмамі рознай ступені цяжкасці «хуткая дапамога» адвезла ў Вілейскую ЦРБ. Кіроўца ВМВ не пацярпеў.

**Паводле сайта МНС.**

## Памежнікі затрымалі расіяніна, які знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку

СМАРГОНЬ

Пра гэта паведамілі ў Дзяржпагранкамітэце Беларусі.

Машыну з расіянінам ў пункце пропуску «Каменны Лог» спынілі 7 сакавіка.

«Пры афармленні на ўезд у нашу краіну аўтамабіля «Пежо» памежнікі затрымалі 60-гадовага грамадзяніна Расіі. Падчас праверкі ўстанавілі, што мужчына знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку», – расказалі ў ведамстве.

**Паводле БелТА.**



Усё больш запатрабаванымі становяцца сэксуальныя паслугі мужчын.

# Мужчыну пакаралі за прастытуцыю

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад пачатку года супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС за прастытуцыю прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці трох жанчын і мужчыну.**

Выпадак, дзе галоўны фігурант – мужчына, першы сёлета ў Мінскай вобласці. Для рэкламы сэксуальных паслуг, як правіла, выкарыстоўваліся сайты ў інтэрнэце і сацыяльныя сеткі.

Ад 1 лютага Маладзечанскі РАУС працуе, каб спыніць прастытуцыю. Паводле статыстыкі, у рэгіёне павялічылася колькасць людзей, падкантрольных міліцыі за аказанне платных сэксуальных паслуг. Цяпер такіх каля 20 чалавек.

Раней гэта лічба была ніжэйшая. Для аказання паслуг людзі выязджалі ў іншыя гарады і раёны.

Меркаванне, што жрыцы кахання мільгаюць уздоўж аўтатрас, у рэстаранах, барах і саўнах, даўно састарэла. Індустрыя перамясцілася на абшары сусветнай павуціны. Кліентаў знаходзяць з дапамогай сацыяльных сетак і сайтаў знаёмстваў.

Калі раней падобная сітуацыя была характэрная для вялікіх гарадоў, то цяпер даволі хуткімі тэмпамі развіваецца і ў рэгіёнах.

Работніцы сэкс-індустрыі – жанчыны ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Як правіла, незамужнія, але ўжо маюць дзяцей. Пытанне, што штурхае іх на падобнага роду занятак, жанчын не бянтэжыць. У кожнага свая прычына.

Для дзяўчат гэта асноўны даход. Сярод іх, як правіла, большасць навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў. Для больш дарослых такая праца дзеля забавы, нягледзячы на пастаянны кантроль з боку праваахоўных органаў і пакаранне, як мінімум, рублём.

Сумы – ад шасці да дваццаці базавых велічынь. Пры паўторным здзяйсненні на працягу года пагражае штраф у памеры ад 30 да 50 базавых велічынь.

**Па заканадаўстве, за занятак прастытуцыяй прадугледжаны і адміністрацыйны арышт.**

У апошнія гады ўсё больш запатрабаванымі становяцца сэксуальныя паслугі мужчын з дапамогай інтэрнэту, прычым не толькі жанчынамі, але і мужчынамі. У Маладзечне такой справай каля 15 гадоў зарабляў мясцовы жыхар.

Мужчыну дапамагала сяброўка. Сумесна яны шукалі партнёраў на платнай аснове.

Занятак прастытуцыяй – гэта адміністрацыйнае правапарушэнне.

Маладзечанскі РАУС нагадвае, мімаволі можна стаць ахвярай сэксуальнага гвалту, у тым ліку за мяжой. На жаль, па дапамогу да праваахоўнікаў рэдка звяртаюцца пацярпелыя ад дзейнасці злачынных груп, якія займаюцца пастаўкамі жанчын у бардэлі за мяжой.

Калі вам вядомыя факты злачынстваў, звязаных з гандлем людзьмі, паведаміце пра гэта на гарачую лінію УУС Мінаблвыканкама па **8 (017) 229-06-07** або ў Маладзечанскі РАУС па тэлефоне **8 (0176) 77-19-11.**

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Зніклы 25-гадовы мядзяльчанін загінуў. Следчыя высвятляюць абставіны

МЯДЗЕЛ

25-гадовы жыхар Мядзела, што знік удзень 11 сакавіка, загінуў.

Пра гэта карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Цяпер мядзельскія следчыя праводзяць праверку і высвятляюць дакладную прычыну смерці.

– Гэта ўся інфармацыя. Больш каментаваць нельга з-за этычных меркаванняў, – адзначыла **Таццяна Беланог**.

У арыенціроўцы паведамлялася, што малады чалавек сышоў з дому ў Мядзеле 11 сакавіка каля 13:00. Ён быў у дэпрэсіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Загнаў» чужыя туі і трапіў пад суд

АСТРАВЕЦ

У адзін з ліпеньскіх дзён Вячаслаў, выйшаўшы з крамы, выпадкова сутыкнуўся з маладым чалавекам, з якім яны пасля разгаварыліся. У працэсе гутаркі Рыгор, так звалі мужчыну, пацікавіўся ў новага знаёмага, дзе ў Астраўцы можна купіць туі.

Вячаслаў сказаў, што сам вырошчвае дэкаратыўныя расліны і можа прадаць патрэбную колькасць. Дамовіўшыся сустрэцца на наступны дзень, мужчыны разышліся.

Ноччу п'яны Вячаслаў адправіўся ў сваю «цапліцу». Толькі знаходзілася яна на чужой вуліцы каля чужога дома. І туі належалі зусім іншаму чалавеку. Раніцай Вячаслаў прадаў Рыгору 23 скрадзеныя туі.

**На гэтым «бізнес» Вячаслава скончыўся: зламысніка знайшлі і прыцягнулі да адказнасці.**

У судзе мужчына цалкам прызнаў сваю віну і чыстасардэчна раскаяўся – гэта, а таксама яўка з павіннай сталі змякчальнымі абставінамі пры вынясенні прысуду. Аднак тое, што Вячаслаў злоўжывае алкаголем і ўжо не першы раз робіць замах на чужую ўласнасць, гаварылі не на яго карысць.

Суд Астравецкага раёна прызнаў мужчыну вінаватым у крадзяжы маёмасці, здзейсненым паўторна, і прызначыў пакаранне ў выглядзе арышту тэрмінам на 1 месяц.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Падрыхтуй сваё аўто да вясны

Фота vistanews.ru

**Зіма сёлета была дастаткова лагодная. Але ўсё адно аўто ТРЭБА падрыхтаваць да вясны. Хіба што машына прастаяла ўсю зіму ў гаражы. Тады тут шмат прасцей.**

Піша Антон ВАШКЕВІЧ.

## Гума

На летнюю гуму трэба пераходзіць, калі сярэдняя тэмпература стабілізуецца на ўзроўні 7 градусаў па Цэльсіі. Але не раней за 1 сакавіка, як таго патрабуюць Правілы дарожнага руху.

Тут важна ўлічваць два фактары: бяспеку і эканоміку. Мяккая зімовая гума блага сябе паводзіць, калі ўжо цёпла. Шына пачынае «плаваць». Тармазны шлях на зімовых шынах можа быць нават на некалькі метраў даўжэйшым, чым на летніх, калі запанавалі сапраўдныя вясеннія дзянькі. Улічвайце таксама, што зімовая гума хутчэй зношваецца пры высокіх тэмпературах.

З іншага боку, у сакавіку яшчэ можа пайсці снег. Таксама звяртайце ўвагу на якасць асфальту. Сёлета, калі тэмпература паветра доўгі час вагалася вакол нуля, на паверхні дарожнага пакрыцця з'явілася шмат выбоін. Вясеннія ямы стануць пеклам для тых, хто ездзіць на нізкапрофільнай гуме з легкаплаўкімі дыскамі. Лепш пачакайце, пакуль ямы заасфальтуюць, а тады і пераабувайцеся.

Пераабуўшыся, не забывайцеся на правілы складзіравання шын. Шыны захоўваюць вертыкальна. Калі складаеце ў стосік, то толькі не высокі. Шыны на дысках складайце ў стос.

Гума з часам старэе. Таму глядзіце, каб шыны не былі старэйшымі за 10 гадоў. А найлепш, каб іхні ўзрост не быў большым за 5 гадоў.

## Кузаў і падвеска

Кузаў трэба добра памыць, каб пазбавіцца ад зімовай гразі. Паглядзіце, ці не з'явіліся «павучкі» ржы на лакафарбавым пакрыцці. Старанна вымыйце падвеску і колавыя аркі, каб там не заставалася соль.

Лепш за ўсё, калі вы памыеце аўто на мыйцы з дапамогай спецыяльнай гліны, якая эфектыўна выдаляе соль, іншыя рэагенты з лакафарбавага пакрыцця машыны.

Праверце падвеску. Нават, калі нічога благога не адчуваеце ў час язды. Магчыма, вы забыліся, што ўзімку некалькі разоў уехалі ў замецэныя снегам ямы. Падвеска таксама можа пашкодзіцца ад удараў кавалкаў лёду.

Праверце тармазныя дыскі і барабаны. Зімой тармазамі карыстаюцца часцей, чым улетку. Тармазы ўразлівыя на ўздзеянне солі, перападаў тэмператур.

## Вадкасці і фільтры

Прадвесне – самы час на сінхронную замену вадкасцяў, у тым ліку маторнай алівы, ахаладжальнай вадкасці, алівы да гідраўзмацняльніка руля.

**Замена вадкасцяў – аказія да замены паветранага і салоннага фільтраў, чысткі паветраводаў ад пылу і смецця. Прыглядзьцеся да гумовых элементаў, у тым ліку шлангаў, каб на іх не з'явіліся трэшчыны.**

Замяні шклоачышчальную вадкасць на летнюю. Яна не толькі таннейшая за зімнюю, але і лепш працуе пры высокіх тэмпературах.

## Дворнікі і салон

Пасля зімы гумкі дворнікаў могуць апынуцца ў благім стане з-за нізкіх тэмператур або з-за таго, што яны шаравалі абледзянелае шкло.

Старанна пачысціце салон. Не толькі прыборную панэль і сядушкі. Пачысціце падлогу і дыванкі, памыйце знутры шыбы.

Гумовыя дыванкі можна замяніць на лепшыя для вясны і лета мякенькія ворсавыя. Вы ж не карысталіся ворсавымі дыванкамі ўзімку? Калі так, то адкрыю таямніцу. Менавіта вільготны дыванок і запацелыя вокны прычына непрыемнага паху ў вашым салоне. Пасля мыцця дыванкоў іх можна апрацаваць спецыяльным кандыцыянерам для гумы і пластыку. Ён аберажэ дыванкі ад перасыхання, белага налёту і растрэсквання. Пасля нанясення кандыцыянера трэба пачакаць некалькі хвілін, пакуль ён убярэцца ў гуму.

## Кандыцыянер

Пасля прывядзення кабіны ў парадак, аўто трэба праветрыць і высушыць, паставіўшы на нейкі час на сонцы. Вясна таксама добры час для чысткі ад грыбкоў кандыцыянера, а канкрэтна, яго выпаральніку. Гэта можна зрабіць і самастойна. Сёння дастаткова многа ёсць спецыяльных для такіх выпадкаў сродкаў.

## Будзь заўважным

Можаш самастойна праверыць спраўнасць усіх лямпачак.

**Паклапаціся пра пярэднія фары: бліжняе і далёкае святло, стоп-сігнал, заднія ліхтары, паваротнікі, асвятленне нумарнога знака.**

Пры замене лямпачак (самастойна або на станцы – усё залежыць ад доступу ў канкрэтным аўто) варта праверыць настройку фар. •





Фота tapetus.pl

● КАЛЯНДАР

**15 САКАВІКА**

**1994.** У Мінску на сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

**16 САКАВІКА**

**2003.** У Мінску адбыўся Першы Усебеларускі сход інтэлігенцыі (больш за 600 чалавек). Створаная Рада беларускай інтэлігенцыі.

**1853.** У Паставах памёр **Канстанцін Тызенгаўз**, асветнік, навуковец-заолаг, заснавальнік беларускай арніталогіі. Сабраў велізарную калекцыю: каля 3000 відаў птушак з усяго свету, а таксама значную колькасць птушыных яек.

**17 САКАВІКА**

**1910.** Нарадзіўся **Хведар Ільяшэвіч** (г. Вільня), пісьменнік, гісторык, журналіст, педагог, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Германіі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Выкладаў беларускую мову ў Віленскай беларускай гімназіі. Загінуў у аўтакатастрофе ў 1948 годзе.

**18 САКАВІКА**

**1791.** Прыняты закон «Аб вольных гарадах у Рэчы Паспалітай».

**1894.** Нарадзіўся **Альбін Стаповіч** (в. Барані, цяпер Астравецкі раён), грамадска-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст. Брат К. Сваяка.

**1921.** Паміж РСФСР і Польшчай падпісаная Рыжская дамова, якая тэрытарыяльна падзяліла Беларусь.

**1969.** 50 гадоў назад у Мядзеле адкрыўся музей народнай славы (заснаваны ў 1967 г.).

**19 САКАВІКА**

**1768.** Нарадзіўся **Адам Храптовіч**, асветнік, мецэнат мастацтваў і навукі, ганаровы член Віленскага ўніверсітэта, удзельнік паўстання 1794 г. Памёр 25 снежня 1844 года ў в.Вішнёўка, цяпер Смаргонскі раён.

**1895.** Нарадзіўся **Тамаш Грыб** (в. Паляны, цяпер Смаргонскі раён), беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

**1974.** Памёр **Эдуард Сташкевіч**, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні ў 1949-1950 гг.

**21 САКАВІКА**

**1840.** Нарадзіўся **Францішак Багушэвіч**, беларускі грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, яе класік.

**1849.** У турме памёр **Аляксандр Незабытоўскі**, засуджаны да 20 гадоў катаргі за перавоз нелегальнай літаратуры, беларускі і польскі пісьменнік, гісторык.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як жыў Івянец у гады Другой сусветнай

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №№ 9, 10*

ВАЛОЖЫН

**Найбольш драматычнай падзеяй у гісторыі Івянца 20-га стагоддзя была аперацыя «Перазвон», праведзеная партызанамі Арміі Краёвай сумесна з савецкімі партызанамі 19 чэрвеня 1943 года.**



Каспер Мілашэўскі і Стэфан Пазнаньскі пасля пераможнага паўстання.

Дату выбралі невыпадкова. У гэты дзень немцы прызначылі мабілізацыю людзей у так званую самаахову і мабілізацыю коней у нямецкую армію. Каб гэта ўсё сарваць і прызначылі аперацыю. План распрацавалі падхарунжы **Альгерд Война**, паручнікі **Каспер Мілашэўскі** і **Валенты Пархімовіч**.

Нямецкі гарнізон налічваў некалькі дзясяткаў немцаў. Гэта жандармерыя і некалькі гаспадарчых камандаў, 20 лётчыкаў, якія адпачывалі ў санаторыі ў былых польскіх казармах, паліцэйскія. Напярэдадні, ноччу, атрад партызанаў з 60 чалавек прыйшоў у Івянец і схаваўся ў доме **Казіміра** і **Люцыі Дзяржынскіх**.

У 12 гадзін дня ў Белым касцёле святога Міхала зазваніў звон на малітву «Анёл Панскі». У гэты час усе немцы і паліцаі пайшлі на абед. Пачуўшы звон, партызаны, якія хаваліся ў Дзяржынскіх, ударылі па нямецкіх лётчыках. Гэтым атрадам камандаваў Пархімовіч.

Тым часам атрад Мілашэўскага захапіў вуліцу Княжаская (цяпер Дзяржынскага). Атрад харунжага **Нуркевіча** разам з савецкай партызанскай брыгадай імя Чкалава блакавалі пад'езды да Івянца з боку Каменя, Валожына, Стоўбцаў, Мінска. Першы стрэл зрабіў начальнік пажарнай каманды **Юзаф Нядзвецкі**.

Аддзяленне пад камандаваннем **Валяр'яна Жуховіча** захапіла адзін з будынкаў жандармерыі. Цяпер гэта Дом дзіцячай творчасці. Жандары, якія там знаходзіліся, здаліся без бою. Аддзяленне знішчыла тэлефонную і радыёстанцыі.

Але жандары, якія былі ў асноўным будынку, дзе цяпер паліклініка, своечасова спахапіліся і занялі абарону. Занялі абарону і немцы, якія знаходзіліся ў касцёле святога Міхала, а дакладней, кулямётны разлік на адной з веж касцёла.

Партызанам і Арміі Краёвай паспрыяла тое, што паліцыя, якая перайшла на бок партызанаў, ліквідавала сваіх таварышаў. На чале паліцыі, якая перайшла на бок партызанаў, стаяў **Стэфан Пазнаньскі**.

Атрад Пархімовіча не здолеў захапіць казармы лётчыкаў. Пілоты адчайна супраціўляліся. Іх часць здолела прарвацца на дапамогу жандарам. Фарсіраваўшы Волму, яны пайшлі ў атаку, каб прабіцца да будынка жандармерыі і дапамагчы сваім.

Але партызаны прымусілі іх адмовіцца ад гэтага намеру і вярнуцца ў казармы. На месце засталося шмат забітых. Двое немцаў трапілі ў палон. Ім прапанавалі пайсці парламенцёрамі да сваіх і прапанаваць ім здацца. Адзін адмовіўся і быў расстраляны. Другі пагадзіўся і пайшоў, за што таксама быў расстраляны. Толькі сваімі.

Бой зацягваўся, падступала ноч. Жандары, не стамляючыся, супраціўляліся. Партызаны вырашылі выкурыць немцаў агнём. Пажарная каманда прыцягнула помпу і бочку, якую напоўнілі бензінам, скрадзеным у немцаў. З бяспечнай дыстанцыі аблілі будынак бензінам і з ракетніцы падпалілі яго. На гэтым супраціўленне жандараў было скончанае. Яны вымушаныя былі пакінуць будынак і трапілі пад агонь партызан.

## Нямецкія лётчыкі не здаваліся

У той жа час нямецкія лётчыкі працягвалі супраціўляцца. Партызаны нічога не маглі з імі зрабіць. Таму савецкае камандаванне паслала на дапамогу польскую групу **Свентаржыцкага** і групу разведчыкаў на чале з камісарам брыгады **Іванам Казаком**. Яны раптоўна ўварваліся ў Івянец, выціснулі лётчыкаў з казармаў на дарогу, дзе знішчылі іх кулямётным агнём.

Бой закончыўся ў шэсць гадзін раніцы. Захапілі багатыя трафеі: штабныя дакументы, гарнізонныя склады са зброяй, боепрыпасамі, абмундзіраваннем, харчаваннем; два легкавыя і тры грузавыя аўтамабілі, дзве гарматы, шмат спірту, 50 галоў буйной рагатай жывёлы, коней, шмат медыкаментаў. З турмы вызвалілі вязняў.

Пасля таго, як раніцай 20 чэрвеня над Івянцом праляцеў самалёт, партызаны пакінулі мястэчка і адышлі ў Налібоцкую пушчу. Нямецкі гарнізон быў амаль цалкам знішчаны. Уцячы ўдалося толькі бургамістру, шэфу СД і некалькім немцам.

Аднаго з немцаў па імені **Ганс** схавала мясцовая сям'я **Маўчановічаў**.

## Як немец Ганс выратаваў Івянец

Праз некалькі дзён немцы прыйшлі для правядзення карнай акцыі. Яны сагналі некалькі дзясяткаў людзей у драўляную царкву, абклалі яе саломай, аблілі бензінам і хацелі падпаліць.

Але Ганс пацвердзіў нямецкаму афіцэру, што нападаючыя адышлі ў лес, а паліць збіраюцца невінаватых людзей-вяскоўцаў. Гэтым ён дапамог Люцыі Дзяржынскай, якая што сілы спрабавала выратаваць некалькі дзясяткаў жыццяў. Камандзір часці паверыў гэтым сведчанням і выпусціў людзей. Па чутках, пасля гэтага Ганс пайшоў у лес, да партызан, дзе змагаўся супраць сваіх.

Пасля аперацыі «Перазвон» немцы ўзмацнілі гарнізон, пабудавалі некалькі дотаў, выкапалі акопы вакол сваіх казармаў.

Самым страшным наступствам было тое, што немцы пачалі зноў блакаду пушчы. Гэту аперацыю назвалі «Герман». Падчас яе немцы планавалі знішчыць усе партызанскія групоўкі ў Налібоцкай пушчы. Але партызаны своечасова захапілі нямецкую аўтамабільную калону, дзе знайшлі штабныя дакументы, якія тычыліся гэтай аперацыі. Яны падрыхтаваліся і далі адпор немцам, хоць і самі апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. Партызан у пушчы немцам знішчыць не ўдалося.

Затое яны адыграліся на мірным насельніцтве. Знішчылі дзясяткі вёсак у Івянецкім, Валожынскім, Стаўбцоўскім, Іўеўскім , Лідскім, Навагрудскім раёнах. Шмат людзей расстралялі, шмат вывезлі ў канцэнтрацыйныя лагеры ў Германіі і Беларусі. Некаторых у хуткім часе вярнулі, бо не засталося каму ўбіраць ураджай.

## Чаму расстралялі Дзяржынскіх

Расстралялі Люцыю і Казіміра Дзяржынскіх. Як немцам удалося іх выкрыць, дакладна невядома. Існуюць дзве версіі. Па адной, іх выдала прыбіральшчыца з камендатуры. Па другой – немцы схапілі п'янага паліцая, які мініраваў дарогу каля вёскі Сівіца. А паколькі Люцыя Дзяржынская паручылася, што ўсе партызаны пайшлі ў лес, то немцы схапілі яе і Казіміра.

Расстралялі іх у лесе каля каталіцкіх могілак. Разам з імі расстралялі маці і дачку **Пілярскіх**.

Вызваленне ў Івянец прыйшло 6 ліпеня 1944 года. За некалькі дзён да гэтага немцы самі, без бою, пакінулі Івянец. У гэты ж самы дзень сюды ўвайшоў танкавы корпус генерала **Бурдэйнага**, танкі якога першымі, 3 ліпеня, увайшлі ў Мінск. За імі, ужо пад вечар, у Івянец увайшлі і пяхотныя часці.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай бібліятэкі.**
**Фотаздымак забяспечаны аўтарам.**

ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Берта Васкес



Фота filtradasfamosas.com.

Украінска-іспанская актрыса, мадэль, спявачка. Нарадзілася 28 сакавіка 1992 года ў Кіеве.

Яркай і экзатычнай знешнасцю яна абавязаная сваім эфіопскім караням. Мама Берты – украінка, а бацька – эфіоп, але яго дзяўчына ніколі не бачыла. З трохгадовага ўзросту яна жыла ў прыёмнай сям'і ў Іспаніі.

З дзяцінства захаплялася танцамі і, канешне, марыла пра сцэну. Магчымасць з'явілася нечакана. Калі Берта выгульвала свайго сабачку па вуліцах Мадрыда, да яе падышла жанчына, якая была кастынг-менеджарам, і запрасіла на пробы. Іх яна правааліла, але другі заход апынуўся трыумфальным – яе ўзялі на ролю медсястры ў фільме Фернанда Моліна «Пальмы ў снезе», які заснаваны на нацыянальным бестселеры.

У гэтым фільме яе партнёрам стаў 29-гадовы іспанскі акцёр кіно і тэлебачання, прыгажун і сэрцаед Марыа Касас, адносіны з якім выйшлі за рамкі экранных.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 18 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.50** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ЭЛВИН И БУРУНДУКИ».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ САМУРАЙ».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«ЭВЕРЕСТ».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.30** Х/ф **«МИМИНО».**
**19.50** «Аналитический прогноз» с Валерием Полховским.
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ».**
**23.10** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВАЯ РУКА».**

**ВТОРНИК, 19 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 1.05** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«МИМИНО».**
**9.00** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«ВОЙНА МИРОВ».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ДЕЛО О ПРОПАВШЕМ ЗАВЕЩАНИИ».**
**17.30** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВДОВЫ».**
**23.20** Х/ф **«ВОЛНА».**

**СРЕДА, 20 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 1.05** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**9.05, 15.30** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.30, 18.10** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.20** «Аналитический прогноз» с Валерием Полховским.
**10.30** «Синьцзян».
**11.00** Х/ф **«ВДОВЫ».**
**13.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«ВОЛНА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «СЧИТАЛКА».**
**19.15** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НА ГРАНИЦЕ ШТАТОВ».**
**23.10** Х/ф **«АВТОСТОПОМ ПО ГАЛАКТИКЕ».**

**ЧЕТВЕРГ, 21 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ИДЕАЛЬНЫЕ НЕЗНАКОМЦЫ».**
**9.00** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«НА ГРАНИЦЕ ШТАТОВ».**
**13.00, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**14.30** Х/ф **«АФОНЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ЗЛО ПОД СОЛНЦЕМ».**
**18.40** «Аналитический прогноз» с Валерием Полховским.
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«РОКОВЫЕ КРАСОТКИ».**
**23.00** Х/ф **«МАУГЛИ».**

**ПЯТНИЦА, 22 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.55** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ВКУС ЖИЗНИ».**
**9.15, 16.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.40, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«МАУГЛИ».**
**12.45, 20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ТИХОНЯ».**
**18.00** «Синьцзян».
**18.30** «Мой любимый питомец».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал».
**22.30** «Герои комиксов на экране»: Фантастический триллер «Люди Икс».

**СУББОТА, 23 МАРТА**

**7.00, 18.55, 21.15, 1.50** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета Земля».
**8.00** Мультфильмы.
**9.10** «Утрямдия».
**9.15** Х/ф **«КИН-ДЗА-ДЗА».**
**11.35** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**13.10** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**
**15.35** «Отвечайка».
**15.40** «Смотрим всей семьей»: мультфильм «Принцесса Египта».
**16.55** Х/ф **«МАУГЛИ».**
**18.40** «Друзья дедушки Марко».
**19.00** Х/ф **«СКОЛЬЖЕНИЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ПЛОХОЙ, ХОРОШИЙ, ЗЛОЙ».**
**0.20** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 24 МАРТА**

**7.00, 15.05, 18.55, 21.05, 23.25** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15, 16.50** Д/с «Династия».
**8.15** Мультфильмы «Три богатыря».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Синьцзян».
**10.30** «Вечерний квартал».
**11.30** Х/ф **«РОКОВЫЕ КРАСОТКИ».**
**13.30** Х/ф **«СТАРИКИ- РАЗБОЙНИКИ».**
**15.10** «Смотрим всей семьей»: худ. фильм «Белль и Себастьян».
**17.50** «Отвечайка».
**17.55** «Друзья дедушки Марко».
**18.10** Т/с **«КАСЛ».**
**19.00** Х/ф **«МОЙ ЛАСКОВЫЙ И НЕЖНЫЙ ЗВЕРЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЙ ГОРОД».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 18 МАРТА**

**6.15** Песня на завтрак.
**6.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**7.55** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**10.00** Мая Радзіма.
**10.35, 15.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40, 19.20** Будьте здоровы.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**

**ВТОРНИК, 19 МАРТА**

**5.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.10, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25** Х/ф **«ИГРА В 4 РУКИ».**
**10.30** Х/ф **«СОКРОВИЩА».**
**12.00** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**13.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**15.00** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**16.50** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**17.35, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Спортлайф.
**20.20** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**

**СРЕДА, 20 МАРТА**

**6.05, 7.15, 9.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 17.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**
**10.35** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**13.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**15.30, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**16.10** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 21 МАРТА**

**6.40, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Смайлик.
**9.10** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**11.05** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2».**
**14.45** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**16.30, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**20.20** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**

**ПЯТНИЦА, 22 МАРТА**

**5.20, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«ДЖЕНТЕЛЬМЕНЫ, УДАЧИ!».**
**11.55** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.10** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**14.40** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**16.10, 19.30, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 23 МАРТА**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 19.30** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**9.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**12.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**14.40** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**20.30** Желаем вам.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 24 МАРТА**

**6.30** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**7.50** Х/Ф «Зачинщики».
**9.25** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**11.00** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**12.55** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**
**14.35** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**16.10** Х/ф **«СУПЕРНЯНЬ».**
**17.45** Х/ф **«ИМЯ».**
**19.30, 22.20** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**20.20** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**

# Вымушаныя абіраць ВНУ па наяўнасці ліфта

## Людзі на вазках з рэгіёна распавялі пра тое, як атрымлівалі сярэднюю і вышэйшую адукацыю

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ

**Абраць ВНУ пасля школы для многіх – задача адказная. Пажадана не памыліцца з прафесіяй, улічыць здольнасці і разлічыць фінансавыя магчымасці.**

Калі ж выпускнік школы – гэта малады чалавек ці дзяўчына на інвалідным вазку, тут паўстае яшчэ адна праблема: а ці магчыма ўвогуле паступіць у ВНУ?

### Жыхарка Залесся Дар'я Ліс: пайшла ў педагагічны, бо там быў ліфт

Дзяўчына на вазку **Дар'я Ліс** жыве ў Залессі на Смаргоншчыне. Працуе журналістам-фрылансерам. У 1999 годзе з залатым медалём скончыла школу. Бачыла сябе студэнткай лінгвістычнага ўніверсітэта або БДУ. І тут з'явілася шмат але.

– У 11 класе я была ўпэўненая: стану перакладчыкам з французскай і буду сумяшчаць веданне моў з журналістыкай. Па-першае, любіла і добра ведала французскую. За што дзякуй настаўніцы **Аляксандры Рабцавай**. Па-другое, друкавалася ў моладзевых газетах. Гэта было цікава! – прыгадвае Даша канец 1990-х.

Калі прыйшоў час паступаць, мама абітурыенткі з'ездзіла ў разведку ў сталіцу. Тады і зразумелі: на журфак ісці не варта, а ў лінгвістычным універсітэце няма ліфта і завочнага аддзялення французскай мовы.

Тады Даша набыла даведнік для абітурыентаў і… разгубілася: было так шмат спецыяльнасцей, але ўсё патрэбнае было недасяжным…

У жаданым БДУ не было ліфта. Таму абітурыентка паступіла ў педагагічны ўніверсітэт на факультэт беларускай філалогіі і культуры.

Атэстат выдатніцы Дашы выдалі раней, і на выпускны вечар у школу яна прыйшла студэнткай. Забрала свой залаты медаль і весела правяла час з аднакласнікамі.

Разам з Дашай вучылася яшчэ адна дзяўчына на вазку **Галіна Каспяровіч (цяпер – Зыранава)** з Брэстчыны.

– Я ўдзячная выкладчыкам і аднакурснікам за дапамогу, разуменне і падтрымку. Хоць вучоба мая была сучэльным экстэрнатам: ездзіла здаваць экзамены ды залікі, кантрольныя працы пісала. Перачытала гару класікі. Трохі паглядзела Мінск. Гэта ўсё важны досвед, – прыгадвае мая субяседніца.

І ў той жа час прызнаецца: месцамі сачкавала, бо не бачыла для сябе перспектывы ў такой адукацыі і ў педагагічнай працы. Ёй хацелася зносін з людзьмі і ведання моў. Усё гэта дадавалася паступова і… самастойна. Асабліва пасля прыходу інтэрнэту.

Сёння Даша ўдзячная выкладчыкам, якія ішлі насустрач, бацькам, якія вазілі яе ў Мінск, цягалі падручнікі, літаратуру.

### Вікторыя Альшэўская з Маладзечна: вучыцца не здолела з-за інфарматыкі на чацвертым паверсе

Маладая мама на інвалідным вазку з Маладзечна **Вікторыя Альшэўская** жыве з бацькамі і маленькай дачкой. У 2007 годзе скончыла сярэднюю школу №14 у Маладзечне. Іншай адукацыі ў жанчыны пакуль няма.

Адразу пасля школы вырашыла паступаць у гандлёва-эканамічны каледж, што ў Маладзечне, на завочнае аддзяленне. Хай адукацыя не вышэйшая, але ж установа ў родным горадзе. Абрала спецыяльнасць «бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль». Вучыцца трэба было платна.

На вучобу на інвалідным вазку дачку вазіла мама.

– Машына ў нас была, але бацька тады не мог вазіць мяне, бо працаваў, – прыгадвае Віка. – Так мы і ездзілі з мамай: з інвалідным вазком залазілі ў аўтобус.

Праўчылася Віка зусім нядоўга. Кажа, калі паступала, абгаворвалася тое, каб заняткі былі на першым паверсе. Але на практыцы гэтага не атрымалася. Інфарматыку ўвесь час ладзілі на чацвертым паверсе.

Пакуль Вікторыя ў дэкрэтным. Нядаўна скончыла курсы «Інклюзіўны барыста». Кажа, вельмі б хацелася і ўладкавацца на працу, а атрымаць адукацыю псіхолага пажадана дыстанцыйна. Але пакуль гэта толькі мары.



Маладзечанка Вікторыя Альшэўская (злева) атрымаць адукацыю пасля школы пакуль не змагла. А Аксана Карніловіч вучыцца на першым курсе радыётэхнічнага каледжа.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### Аксана Карніловіч: у каледжы для мяне перанеслі камп'ютар на першы паверх

Маладзечанка на вазку **Аксана Карніловіч** школу скончыла ў 2018. У старэйшых класах захапілася праграмаваннем. Таму і спецыяльнасць вырашыла абраць адпаведную.

Паступіла на завочнае аддзяленне радыётэхнічнага каледжа ў Мінску. Тут навучэнцы на вазку пайшлі насустрач. Нават камп'ютар для заняткаў інфарматыкай перанеслі на першы паверх.

– Пакуль я вучуся на першым курсе, – кажа Аксана. – У групе ёсць яшчэ адна дзяўчына на вазку. За гэты год навучання праблем не было. Падабаецца і абраная спецыяльнасць, і навучанне.



Студэнткі Дар'я Ліс (справа) і Галіна Каспяровіч з выкладчыкамі падчас вучобы ў педуніверсітэце.

Фота з архіва Дар'і Ліс.

### Юрыст Офіса па правах людзей з інваліднасцю:

Аб праблемах, з якімі сутыкаецца чалавек на вазку, што хоча атрымаць вышэйшую адукацыю, «Рэгіянальнай газеце» расказаў юрыст Офіса па правах людзей з інваліднасцю **Алег Граблеўскі:**

– З пытаннем, дзе чалавеку з інваліднасцю атрымаць вышэйшую адукацыю і адукацыю ў прынцыпе, да нас звяртаюцца часта. І тут ёсць некалькі праблем: гэта і фізічная даступнасць да ўстановы адукацыі, і немагчымасць суправаджаць чалавека з інваліднасцю, і адсутнасць даступнай статыстыкі пра колькасць такіх студэнтаў.

Летась у Офіс звярнулася сям'я. Дзяўчына-вазочнік хацела паступаць на дызайнера. Бацькі вывучылі ці не ўсе ВНУ Беларусі і не знайшлі ніводнай, дзе б магла вучыцца дачка. У выніку яны прыйшлі ў Офіс з пазіцыяй: мы гатовыя паступіць хоць куды, на любую спецыяльнасць. Толькі скажыце, куды можна.

Па словах Алега Граблеўскага, сёння толькі адна ВНУ больш-менш абсталяваная пад навучанне такіх студэнтаў. Гэта Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт.

Другая праблема – немагчымасць суправаджаць на лекцыях студэнта-вазочніка або студэнта з псіхічнымі адхіленнямі. Калі ў школе і дашкольных установах гэта магчыма па заканадаўстве, то ў ВНУ такі суправаджаючы заканадаўча не прадугледжаны. Так і адказваюць бацькам на афіцыйныя запыты ў Мінадукацыі.

Трэцяя праблема – лічбы.

– Мы не бачым статыстыкі, які працэнт студэнтаў з інваліднасцю ад агульнай колькасці студэнтаў. Калі ж часам удаецца выхапіць нейкія лічбы, то яны звычайна мізэрныя, – кажа Алег. – Вядома, большасць абітурыентаў на вазку, сутыкнуўшыся з такімі праблемамі ці хаця б пачуўшы пра іх, проста застаюцца сядзець дома.

Хоць вышэйшая адукацыя многім з іх патрэбная.

– Як мінімум, для самаацэнкі, – кажа мая субяседніца Даша Ліс. – Але самаадукацыю ніхто і ніщто не заменіць. Цяпер ёсць інтэрнэт і процьма магчымасцяў. А да афіцыйнай адукацыі пытанні застаюцца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Калекцыяную гісторыю беларускага мора

**МЯДЗЕЛ**

*Працяг. Пачатак у №10.*

**Працягам рэкрэацыйнай тэматыкі можа стаць значок, на якім ёсць надпіс «Нарочь СОЛ БГУ». Гэта значыць – «спортивно-оздоровительный лагерь БГУ».**

Афармленне значка прамавугольнай формы простае, а малюнкі на ім яскрава перадаюць тэматыку і настальгію летняга адпачынку. У архівах БДУ захаваліся нават фотаздымкі 1977 года спартыўна-аздараўленчага летніка на Нарачы. Гэта дае прыблізную дату з'яўлення падобнага значка.

### Свята Нептуна

Фотаматэрыялы дэманструюць студэнтаў БДУ, якія арганізоўвалі свята Нептуна на беразе возера. Яно мела збольшага забаўляльны характар, але пры гэтым прыгожа і рэалістычна глядзіцца на фоне водных прастораў. У савецкі час такое свята часта праводзілася менавіта падчас летніх лагераў адпачынку, было распаўсюджанай з'явай.

Значок звязвае з БДУ не толькі таму, што на Нарачы працавалі падобныя лагеры. Пачынаючы з канца 1940-х гадоў на возеры з'яўляецца Нарачанская біялагічная станцыя. Неверагодна прыгожыя мясціны такім чынам сталі не толькі месцам адпачынку студэнцкай моладзі, але і месцам сур'ёзных даследаванняў.

### Біялагічная станцыя

Яшчэ ў даваенныя часы ў гэтых мясцінах месцілася біялагічная станцыя Варшаўскага ўніверсітэта. Яе будынак і паклаў асновы для ўласна беларускай станцыі аналагічнага профілю.

**Нарачанскую біялагічную станцыю назвалі імем заснавальніка беларускай гідрабіялагічнай школы і высакакласнага навукоўцы Рыгора Вінберга. Гэта станцыя – база для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных гідрабіёлагаў.**

Менавіта тут распрацавалі метады і падыходы да вывучэння водных экасістэм, тэорыю і практыку рацыянальнага выкарыстання водных рэсурсаў і аховы водных аб'ектаў.

Навуковыя распрацоўкі, абароненыя кандыдацкія і доктарскія дысертацыі з'яўляюцца сур'ёзнымі даследаваннямі ў галіне гідраэкалогіі, біялагічнай разнастайнасці беларускіх вадаёмаў і іншага.

### Сімвал памяці аб неадназначнай гісторыі

Яшчэ адзін значок з беларускамоўным надпісам сведчыць пра цэлы комплекс азёр, якімі не кожны рэгіён і раён можа пахваліцца: Баторын-Мядзел-Мястра-Нарач.

**Так званая Нарачанская група азёр злучаецца паміж сабой кароткімі пратокамі і мае агульны сцёк у Нарач.**

Нездарма апошняя назва «Нарач» на значку як бы падкрэсліваецца, а надпіс знаходзіцца на полі з чырвонай эмалі, што сапраўды яе вылучае. У сваю чаргу ліпары назвы буйнейшыя за тры найменні іншых азёраў.

**У цэнтры значка на фоне гарызонту і водных хваляў, зробленых з дапамогай блакітнага і белага колераў, размешчаная стэла, якая мае ў сапраўднасці 24 метры ў вышыню.**

Яна прысвечаная партызанам гэтых мясцін. Яе ўзвялі ў 1968 годзе, калі стары манумент знеслі, а на яго месцы зрабілі новы абеліск «Партызанам Вілейшчыны».

Знізу помніка, на стыку дзвюх граняў, у паглыбленнях размешчаныя рэльефы. На першым жаўнер падтрымлівае цела параненага таварыша. На другім фігура партызана, што гатовы ісці ў бой. Да абеліска вядзе каскад з 96 прыступак, праваруч знаходзяцца 18 бетонных блокаў з назвамі партызанскіх брыгад і атрадаў. Гэты помнік размешчаны на высокім узгорку блізвёскі Мікольцы. У сваю чаргу вёска размешчаная практычна паміж двух азёр – Нарач і Мястра.



Фота archives.bsu.by.

**Свята Нептуна ў спартыўна-аздараўленчым лагеры БДУ на Нарачы. 1977 год.**




**Значок у гонар Нарачанскай групы азёр.**




Фота забяспечанае Алесем КРЫЖЭВІЧАМ.

**Значок з надпісам «Нарочь СОЛ БГУ».**

### Героямі сталі дзякуючы фальсіфікацыі

Варта адзначыць усю неадназначнасць падзей, што адбываліся падчас нямецкай акупацыі на беларускіх землях. У вёсцы Нарач, што раней называлася Кабыльнік, жаўнеры вермахта забілі амаль дзве сотні яўрэяў. Ахвярамі станавіліся і мясцовыя жыхары, якіх загінула некалькі дзясяткаў чалавек.

Партызанская брыгада імя Варашылава пад кіраўніцтвам Фёдара Маркава, якая тут дзейнічала, таксама не адзначылася асаблівай мужнасцю ў барацьбе з нямецкімі захопнікамі. Менавіта так званыя «маркаўцы» выгналі ўсіх жыхароў з хатаў і спалілі вёску Кабыльнік, а таксама зацкавалі да смерці мясцовага ксяндза.

**Гэта пацвярджае той факт, што частка так званых «партызанскіх» атрадаў часам былі проста марадзёрамі і бандытамі.**

Па афіцыйных дадзеных, на тэрыторыі Нарачанскага краю дзейнічала пяць партызанскіх брыгад. Прысутнічала ў гэтых месцах і Армія Краёва, аднак частку людзей атрада ліквідавалі. Гэта адбылося на палявой базе, дзе каля 80 краёўцаў расстралялі ўдзельнікі брыгады Маркава.

**Алесь КРЫЖЭВІЧ.**

*Заканчэнне будзе.*

# Каталіся на поні, елі бясплатныя бліны і спявалі

## У Маладзечне жыхары аднаго з двароў зладзілі ўласную Масленіцу

МАЛАДЗЕЧНА

**«Хлопчыкі, ідзіце да нас!» – звяртаюцца да мужчын, што праходзяць міма, жыхаркі двара.**

«Ад агульнай справы – да добрасуседства» – пад такім дэвізам жыхары аднаго з двароў па Скарыны 9 лютага арганізавалі ўласныя провады зімы.

Святкавалі на імправізаванай сцэне. Прынеслі падаўжальнікі і мікрафон, адзеліся ў каляровыя касцюмы, падрыхтавалі рэквізіт.

Наведнікі паспрабавалі сябе ў гульнях і конкурсах. Пад самаробнай «стужкай жаданняў» прайшоў не адзін дзясятак чалавек – усе хацелі, каб іх мары спраўдзіліся. Перацягвалі канат, вадзілі карагоды і сустракалі ўласнаруч зробленую Масленіцу. Але паліць яе не сталі.

### Бясплатна елі бліны

Дзяцей запрасілі пакатацца на поні. Васьмігадовую **Мусю** прывезлі з Цівідаўкі, што пад Маладзечнам. І яна аказалася гваздом праграмы – дзятва ад Мусі не адыходзіла ні на крок. Шпацыр па двары каштаваў пяць рублёў.

Якая ж Масленіца без бліноў? Жыхары двара напяклі іх самых розных формаў. І пасля канцэрта зладзілі чаяванне. Бліны, цукеркі, печыва, яблыкі, гарачы чай бясплатна змог пакаштаваць кожны.

У знак праведзенай Масленіцы ў двары на адным з дрэў з'явіўся арт-аб'ект. Яго прыдумала і стварыла **Кацярына Камельчык**. Асноўны круг у выглядзе сонца з промнямі быў звязаны да Масленіцы. Таксама дрэва ўпрыгожылі карункавыя вязаныя сурвэткі, якія прынесілі ахвотныя.

### Стварылі адпачынак для ўсяго двара

Аб'явы пра святкаванне арганізатары расклеілі па пад'ездах яшчэ за некалькі дзён, але даведваліся пра Масленіцу і ад сяброў, суседзяў, родных. Падчас гульняў і песень мінакі наўпрост затрымліваліся, каб далучыцца да свята.

– Спадабаўся поні, бліны смачныя, добрая арганізацыя. Хочацца, каб такія мерапрыемствы праводзілі часцей. Унукам забава ды і пажылым цікава паглядзець. Сам даведаўся пра свята з аб'явы на пад'ездзе, – дзеліцца пенсіянер жыхар дома №1 **Эдвард**.

Жыхарка гэтага ж дома **Святлана** ўпэўненая, падобныя святы добра аб'ядноўваюць суседзяў. Свята пабачыла з акна дома і вырашыла падтрымаць. «Цудоўная ініцыятыва. Не верыцца, што можна стварыць сваімі рукамі адпачынак для ўсяго двара».

### Як узнікла ідэя

– Ідэя зладзіць свята ўзнікла на адной з сустрэч дыскусійнага клуба, якая была прысвечаная ўстанаўленню адносін паміж суседзямі і палепшанню двара. Падчас яе зразумела, што аб'яднаць людзей цалкам магчыма, – дзеліцца адна з арганізатараў **Ірына Тархан**. – Даўно хацелася зладзіць падобнае свята.

Гэта не першае мерапрыемства, арганізаванае ў двары. У студзені правялі першы так званы суботнік – сабраліся, каб пачысціць снег. Па словах Ірыны, было цікава, колькі чалавек падтрымае. У выніку прыбіралі шасцёра. Пазнаёміліся бліжэй і захацелі прадоўжыць справу добрасуседства.

Стварылі групу ў вайберы «Наш двор», прыцягнулі знаёмых і суседзяў. І праз два тыдні ўжо зладзілі Дзень снегавіка. Зляпілі снегавіка і снежную крэпасць у двары. «Калі потым вечарам пілі чай, нас ужо было 17 чалавек». Тады і вырашылі арганізаваць Масленіцу.

### На свяце было каля 100 чалавек

Ірына прызнаецца, свята абышлося амаль бясплатна. Яе знаёмая **Наталля Бабаян**, выхавальніца санаторнай школы-інтэрната, выступіла перад гледачамі ў якасці Вясны. Скаморохамі былі жыхаркі дома №1 **Вольга Гапановіч** і **Настасся Патокіна**. Ролю Зімы выканала **Ульяна Жалевіч**. Пелі і ігралі на гітары таксама знаёмыя дзяўчаты.

– Мэта свята – наладзіць адносіны паміж суседзямі, звярнуць увагу на тое, што ёсць ініцыятыўная група. На Масленіцу прыйшло каля 100 чалавек з розных раёнаў горада, нават былі знаёмыя з Мінска.

### Могуць стварыць у двары дзіцячую пляцоўку

Ідэю стварэння ў двары спрыяльнага асяроддзя ўжо падалі як праект на конкурс ініцыятыў у Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый. Ірына кажа, у двары можа з'явіцца дзіцячы гульнявы комплекс. «Нашы дзеці часта збіраюцца на бетонных прыступках у двары, чаму б не зрабіць для іх добрыя ўмовы?».

### Калі будзе наступнае мерапрыемства

Ірына дзеліцца, наступнае свята будзе ўжо праз месяц. Папярэдняя дата – 13 красавіка. Святкаваць будуць Дзень шпакоўні, абяцаюць правесці конкурс сярод дзяцей на лепшы домік для птушак. Запрашаюць усіх ахвотных. Таксама шукаюць музыкантаў, валанцёраў, людзей з цікавымі ідэямі па арганізацыі мерапрыемства. Па кантакты арганізатараў звяртайцеся да нас у рэдакцыю па тэл. (8-0176) 53-78-06 ці пішыце на пошту regionnews@rh.by.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**



На поні Мусі можна было зладзіць шпацыр па двары.



Традыцыйны масленічны карагод вадзілі ўсім дваром.

Больш фота – **на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/molamaslenica**

## У Маладзечне знеслі агароджу на стадыёне

МАЛАДЗЕЧНА

На гарадскім стадыёне ў Маладзечне дэмантавалі рашоткі, якія аддзялялі трыбуны ад бегавых дарожак і поля.

Гэтыя рашоткі усталявалі на стадыёне ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Яны цалкам акружалі гульнявое поле. Па сутнасці, гэта было ўкараненне практыкі абмежавання волі гледачоў, якое раней выкарыстоўвалі ў Італіі, Англіі. Паўсюднага развіцця ў Беларусі гэта практыка не атрымала.

Пасля дэмантажу рашоткі засталіся толькі каля фанацкіх сектараў.

**Паводле football.by.**

## Астравецкія баксёры правялі два выйгрышныя баі на рэспубліканскіх спаборніцтвах юнацкай лігі бокса

АСТРАВЕЦ

Яшчэ два выйгрышныя баі правялі астравецкія баксёры і прынеслі ачкі камандзе Гродзенскай вобласці падчас рэспубліканскіх спаборніцтваў юнацкай лігі бокса.

На гэты раз баксёры сустракаліся з сапернікамі з Брэсцкай вобласці.

Героямі дня сталі **Аляксандр Баруўка** і **Кірыл Саўко**, якія ўпэўнена прадэманстравалі, хто лепшы на рынгу. Іх тазварышам **Арсеню Мялешку** і **Кірылу Рагавенку** на гэты раз не пашанцавала, але, магчыма, у наступны раз яны таксама будуць у ліку пераможцаў.

**Марына МАЦКЕВІЧ, паводле ostrovets.by.**

## Каманда «Дынама-Маладзечна» выйшла ў паўфінал плэй-оф экстралігі сезона 2018/2019

МАЛАДЗЕЧНА

«Дынама-Маладзечна» ў чацвертай сустрэчы абыграў у гасцях «Гомель» – 4:1.

Матч быў вызначальны ў серыі. І калі ў «зуброў» было права на памылку, то «рысям» трэба было толькі перамагаць. Але ўжо на 61-й секундзе матча **Андрэй Бялевіч** прымусіў даставаць з варот шайбу **Андрэя Грышчанкі**, які абараняў вароты «Гомеля».

На другой хвіліне другога перыяду **Артур Гаўрус** змог уцячы ад абаронцаў гаспадароў і павялічыць перавагу. Гаспадары мелі магчымасць адыграць адзін гол, калі ў вароты «Дынама-Маладзечна» прызначылі буліт. Аднак **Яўген Саламонаў** не змог перайграць **Віталя Бялінскага**, які клюшкай выбіў шайбу і не даў здзейсніць кідок па варотах. У канцы перыяду **Ягор Воранаў** па-майстэрску замкнуў накід **Вячаслава Лісічкіна**, зрабіўшы лік 0:3.

Трэці перыяд пачаўся з нападаў гаспадароў, і **Павел Мусіенка** здолеў распячатаць вароты Віталя Бялінскага. Аднак на большае ў «Гомеля» не хапіла ні часу, ні сіл. Фінальную кропку ў матчы паставіў Артур Гаўрус, зрабіўшы лік 1:4.

**Паводле Прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**

## Правядуць Кубак Астравецкага раёна па валейболе

АСТРАВЕЦ

Кубак Астравецкага раёна па валейболе зладзяць 16-17 сакавіка на базе Астравецкага фізкультурна-аздараўленчага комплексу.

Мэтамі спаборніцтваў з'яўляюцца прапаганда здаровага ладу жыцця, павышэнне спартыўнага майстэрства, прасоўванне валейбола ў раёне.

Пачатак спаборніцтваў а 10-й.

**Паводле ostrovets.by.**

## Смаргонскія лёгкаатлеткі паўдзельнічалі ў забегу Beauty Run

СМАРГОНЬ

Жаночы дзень у Мінску традыцыйна адзначылі «Прыгожым забегам». Дыстанцыі, якія пераадолелі прадстаўніцы прыгожага полу – два і пяць кіламетраў, – былі па праспекце Незалежнасці.

Сёлета ўдзельніцаў забегу было каля пяці тысяч. Яны паказалі, што могуць заставацца прыгожымі, нават калі неабходна максімальна мабілізаваць свае сілы і праявіць вынослівасць. Арганізатарам мерапрыемства стала Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі пры падтрымцы Мінгарвыканкама і Міністэрства спорту і турызму.

Сярод удзельніц забегу былі прадстаўніцы Смаргоні – 30 спартсменак, трэнер **Ларыса Грэцкая** і нават мамы навучэнцаў спартыўнай школы – **Святлана Дрэўс** і **Іна Ламаноўская**. На фінішы ўсе атрымалі медаль, кветкі і дыплом. За самы крэатыўны касцюм другі год запар прыз атрымоўвае **Ульяна Іванова**.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**



Фота забяспечанае камандай ашмянскіх цяжкаатлетаў.

Некаторыя пераможцы атрымалі грашовую прэмію.

# Ашмянскія цяжкаатлеты – другія ў вобласці

АШМЯНЫ

**У Гродне прайшла абласная спартакіяда па цяжкай атлетыцы сярод юнакоў і дзяўчат 2004 года нараджэння і меншых. У камандным заліку ашмянскія спартсмены занялі другое месца.**

На працягу апошніх чатырох гадоў касцяк ашмянскай каманды складаюць вучні Кальчунскай і Жупранскай школ. Па словах трэнера **Міхаіла Станкевіча**, шмат у чым так складваецца дзякуючы дырэктарам устаноў адукацыі **Яўгену Навіцкаму** і **Кацярыне Астрамовіч**, якія падтрымліваюць сваіх выхаванцаў, спрыяюць прыцягненню падлеткаў да заняткаў фізічнай культурай і спортам і не перашкаджаюць удзелу ў спаборніцтвах. Дамагаючыся значных вынікаў, вучні падымаюць імідж не толькі школ, але і раёна ў цэлым.

На абласной спартакіядзе ашмянскую каманду прадставілі 16 спартсменаў, асноўная маса якіх у сваіх вагавых катэгорыях трапіла ў запаветную шасцёрку наймацнейшых. Самы юны ўдзельнік спаборніцтваў **Даніэль Жабінскі** (Жупранская СШ), на жаль, стаў шостым, аднак змагацца спартсмену прыйшлося з 43 сапернікамі, заяўленымі ў вагавой катэгорыі да 49 кг.

У лік прызёраў у камандзе сярод юнакоў увайшлі **Мікіта Мажэйка**, **Дзяніс Галамбоўскі** і **Аляксей Шукеловіч**, якія занялі трэція месцы. Усе з Жупранскай СШ.

Сярод дзяўчат золата дамагліся вучаніцы СШ №1 **Лізавета Матарас** (вага да 40 кг) і **Настасся Афанасьева** (да 59 кг). Вучаніцы Кальчунскай СШ **Карына Загорская** (да 49 кг) і **Маргарыта Акуліч** (да 64 кг) сталі бронзавымі прызёрамі. Трэцяе месца і ў **Тэрэзы Кірдзік** (да 55 кг) з Жупранскай СШ. У гэтай вазе **Яна Рыбіна** (Кальчунская СШ) заняла чацвертае месца.

Згодна з рашэннем савета спартыўна-атлетычнага клуба «Аякс», пераможцы Лізавета Матарас і Настасся Афанасьева атрымалі грашовую прэмію ў памеры 10 рублёў.

**Аліна БЯЛІЦКАЯ, паводле osh.by.**

## Хадасевіч не пойдзе на выбары старшыні Беларускай федэрацыі футбола. Пакуль

МАЛАДЗЕЧНА

**27 сакавіка адбудзецца канферэнцыя Беларускай федэрацыі футбола, на якой абяруць старшыню арганізацыі.**

**Мікалай Хадасевіч**, які планаваў пайсці на выбары старшыні БФФ, адмовіўся ад удзелу.

– Сябры, не судзіце строга, не лайце моцна, але, на жаль, я не іду на выбары старшыні Асацыяцыі беларускай федэрацыі футбола. У мяне сапраўды былі дамоўленасці з людзьмі, якія дапамаглі б арганізаваць прэм'ер-лігу, а гэта галоўная частка перадвыбарнай праграмы, якую я анансаваў тыдзень таму. Але калі трэба было ў чацвер несці дакументы ў Дом футбола, мне проста сказалі, што пакуль не час. Але праз чатыры гады гэта будзе цалкам рэальна, я ў гэта веру, – паведаміў на сваім ютуб-канале Мікалай Хадасевіч.

Даведка «РГ»:
Мікалаю Хадасевічу 35 гадоў. Чытачам «РГ» ён вядомы сваімі публікацыямі ў нашай газеце на мяжы 1990-2000 гадоў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота UDF.by.

Мікалай Хадасевіч.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Было б балота, а … знойдуцца.
5. Ён павінны быць у кожным творы мастацтва. Пажадана, каб ён быў у словах і дзеяннях. А найвялікшае шчасце – калі ён ёсць у жыцці.
6. Да пачатку 20 стагоддзя гэта быў асобны горад. Цяпер – адна з частак Нью-Ёрка.
7. Пахілая паверхня гары, берага; схіл.
9. Назавіце прадмет, які даў назву слову «газета».
12. Прыбор, які ператварае гукавыя ваганні ў электрычныя і служыць для перадачы гукаў на вялікія адлегласці або для ўзмацнення іх.
13. Восьмая ступень гамы, а таксама інтэрвал паміж бліжэйшымі аднайменнымі гукамі рознай вышыні.
15. Невялікі прадмет, што носяць на целе як магічны сродак, быццам бы здольны засцерагчы ад няшчасця, хваробы; талісман.
16. Сам вада і па вадзе плавае.
19. Упрыгожанне, звычайна прымацоўваецца да мочкі вуха.
20. Працэс уздзеяння чалавека на прыроду; чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцяў.
21. Чорная маліна.
24. Становіцца лепшай, калі яе топчуць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Месяц у першай квадры.
3. Горад, у якім размешчаныя самыя дарагія ў свеце магілкі. Участак тут ацэньваецца ў мільёны долараў.
4. Адзін з банкаў Італіі ў якасці крэдытнага задатку прымае гэты від сыру. Працэнты налічваюць невялікія. Калі крэдыт не пагасяць, прадаць папулярны сыр будзе зусім не складана.
8. Плата, дар за заслугі.
10. Усё існае на зямлі, не створанае дзейнасцю чалавека; увесь свет у разнастайнасці яго форм.
11. На райскім востраве Балі яны карыстаюцца большым аўтарытэтам, чым дактары. Таму і аптэк з бальніцамі тут няшмат – няма кліентуры.
14. Чым вы накрываецеся ў ложку.
17. Самы буйны горад за палярным кругам.
18. Зямельныя ўладанні памешчыка.
19. Агульная назва хлебных злакавых раслін, з зерня якіх вырабляецца мука і крупы.
22. Своеасаблівае вымаўленне, уласцівае для тых, хто гаворыць на чужой мове.
23. У гэтай афрыканскай краіне раптоўна расце колькасць насельніцтва і, адпаведна, патрэба ў жыллі. Аднак будаўнічых матэрыялаў недастаткова, таму папулярныя дамы з пластыкавых бутэлек. На невялічкі дом патрабуецца каля 14 тысяч бутэлек.
24. Колькасць людзей-донараў складае толькі 5% ад патрэбнай лічбы. Органы якой жывёлы часцей выкарыстоўваюць для перасадкі чалавеку?
25. Вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова, у задачу якой уваходзіць развіццё навук або мастацтваў.
26. Бясплатна.

## Адказы на крыжаванку з №10

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Паводка. 3. Сігнал. 4. Ліфт. 6. Міндоўг. 7. Асёл. 8. Чамадан. 13. Букет. 14. Уніяцтва. 15. Унук. 16. Швецыя. 17. Човен. 18. Прымы. 19. Пагарда. 20. Ласы. 21. Ружа.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Павалока. 5. Угодкі. 8. Чыгунка. 9. Лёгкі. 10. Форд. 11. Мыш. 12. Ружовы. 13. Бег. 14. Улева. 18. Пацеркі. 22. Абрыкос.



## ● ГАРАСКОП 15-21 САКАВІКА

**АВЕН.** Вас падхопіць вецер перамен. Ён будзе падштурхоўваць вас да здзяйсненняў у самых розных сферах жыцця. Таму засяродзьцеся і будзьце ў патрэбным месцы ў патрэбны час.

**ЦЯЛЕЦ.** Не важна, якая сітуацыя ўзнікла ў вас у галаве. Рэальнасць такая, што вы можаце з гэтым справіцца. Вы нашмат мацнейшыя і мудрэйшыя, чым думаеце. Вы пройдзеце скрозь гэта і перажывяце.

**БЛІЗНЯТЫ.** Перыяд парадуе тых, хто схільны да творчай дзейнасці, спрабуе розныя спосабы самавыражэння. А яшчэ дзякуючы збегу абставін ці сваім аналітычным здольнасцям вы можаце атрымаць ключ, які адчыніць дзверы да поспеху і новых дасягненняў.

**РАК.** Не паддавайцеся спакусам, своечасова адыходзьце ў бок і пераключайце ўвагу на што-небудзь іншае. Дыпламатычнасць і абаянне дазволяць вам пераадолець любыя перашкоды.

**ЛЕЎ.** Вы будзеце абаяльнымі ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, па-другое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі.

**ДЗЕВА.** Правядзіце нечаканы эксперымент са сваім гардэробам. Нешта выкіньце ці аддайце, нешта новае набудзьце. Паспрабуйце скамбінаваць рэчы, якія вы ніколі раней не рашаліся надзець разам.

**ШАЛІ.** Спрыяльны час, каб увасобіць у жыццё самыя патаемныя мары. Дзейнічайце рашуча і смела і ведайце, што зоркі на вашым баку. Час ад часу ўпрыгожвайце свой дом, каб энергія радасці, святла і любові запоўніла вас і перадалася іншым.

**СКАРПІЁН.** На гэтых днях вам трэба будзе адпрацаваць частку сваёй кармы. Як ставіцца да гэтага працэсу – вырашаць вам, але каб не пагоршыць сваё становішча, паспрабуйце ні ўва што не ўмешвацца і не прадпрымаць актыўных дзеянняў.

**СТРАЛЕЦ.** Усё будзе літаральна кіпець у руках. Час добры для распачынання новых спраў, для пабудовы планаў і іх рэалізацыі. Лёс спрыяе вам, і ўсё складваецца ўдала пры належнай упартасці.

**КАЗЯРОГ.** Вы атрымаеце магутны зарад энергіі, якая дазволіць вам вырашаць практычна любыя сітуацыі. Азначыцца выразны план дзеянняў, а інтуіцыя, якая абвострыцца, дазволіць зразумець, хто на самой справе ваш сябар, а хто не. Дні падыходзяць для таго, каб расставіць усе кропкі над «і» ў вашых узаемаадносінах з сябрамі і блізкімі.

**ВАДАЛЕЙ.** У вас стан, блізкі да дэпрэсіі. Не ўпадайце ў адчай. Жыццё такое пераменлівае, што калі сёння вам дрэнна, то заўтра можа адбыцца такое, што ад радасці аж дух захопіць. Калі ў вас не ляжыць душа да якога-небудзь чалавека ці нейкай працы, не варта губляць на іх свой час.

**РЫБЫ.** Падарункі і святы ў некаторых з вас трохі падарвалі сямейны бюджэт. Але вы зможаце набыць тое, пра што марылі. Шопінг удасца на славу!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 4 | | | | 6 | | 1 | |
| | | | 2 | 9 | | | | |
| | | | 7 | | 1 | 4 | 2 | |
| | | 5 | | | 9 | | | 4 |
| 6 | | | 1 | 3 | | 2 | | |
| | | | 8 | | 7 | | | 3 |
| | | 6 | 4 | | 3 | 8 | | |
| 8 | | | | 6 | 2 | | | |
| | | 7 | | 1 | | | 3 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- **У маладзечанскай школе №5 16 сакавіка збіраюцца правесці экалагічную акцыю «Пластыкавы пакет – забойца». Як ад кожнага з нас залежыць экалогія і будучыня планеты, што рабіць, каб найменш шкодзіць прыродзе, чытайце ў наступным нумары.**



## Ушанавалі памяць пра Тараса Шаўчэнку

**10 сакавіка каля помніка Дарозе, што побач з вёскай Мясата, сябры культурна-асветніцкага таварыства украінцаў «Краяны» правялі імпрэзу, прысвечаную 205-годдзю з дня нараджэння украінскага паэта, мастака, грамадскага дзеяча Тараса Шаўчэнкі.**

МАЛАДЗЕЧНА

На мерапрыемстве прысутнічалі таксама першы сакратар Амбасады Украіны ў Беларусі **Іван Башняк** і кіраўнік беларускага грамадскага аб'яднання украінцаў «Ватра» **Віктар Гутоўскі**.

– Сёння мы сабраліся, каб пакласці кветкі да адзінага ў свеце помніка Дарозе, па якой праходзіў наш слаўны паэт Тарас Шаўчэнка, 205 год ад нараджэння якога мы адзначаем, – адкрыў мерапрыемства кіраўнік «Краянаў» **Леанід Лысакабылка.**

Прыгадалі біяграфію знакамітага украінскага паэта, прачыталі яго паэзію, усклалі кветкі да помніка. Таксама прагучаў верш Янкі Купалы «Тарасова доля», прысвечаны Шаўчэнку.

Юбілей Тараса Шаўчэнкі сёлета маштабна адзначаюць ва Украіне. Украінцы з Маладзечна таксама не змаглі застацца ўбаку.

Помнік Дарозе каля вёскі Мясата на Маладзечаншчыне – помнік Віленскаму тракту. Па ім у розныя часы хадзілі і ездзілі вядомыя асобы Беларусі. Іх імёны пералічаныя на помніку. У спісе Сымон Будны, Янка Купала, Міхал Агінскі, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот і многія іншыя. Есць і імя Тараса Шаўчэнкі. У 1829 годзе па гэтай дарозе будучы паэт ішоў да Вільні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## Вясновым сонейкам сагрэта «Рэгіянальная газета»



**Падпішыцеся на другі квартал!**
**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем лiтару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 16 сакавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 6-7 м/с




Усход 7.27
Захад 19.15
Даўжыня дня 11.48

Усход 12.57
Захад 5.04
Месяц расце

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -21,4°С у 2010 годзе
Максімальная тэмпература +10,5°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9 мм у 2014 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што вас не задавальняе ў крамах?



**Ганна Шульга,**
**у дэкрэтным адпачынку, Смаргонь:**

– Есць нюансы. У гадзіны пік, ад 17 да 19, хочацца, каб працавала больш кас, а не адна-дзве. Людзі з працы ідуць, таму стаяць у чарзе не вельмі хочацца. Таксама хачу, каб сачылі за тэрмінамі прыдатнасці, і гэта ў прыярытэце павінна быць.



**Ілья Елісееў,**
**студэнт універсітэта, Маладзечна:**

– Здаецца, мяне ўсё задавальняе. Пратэрміноўку ніколі не набываў, з прадаўцамі канфліктаў ніколі не было, чэргі ўспрымаю як дадзенасць, картай не карыстаюся, таму з тэрміналам таксама не ўзнікала праблем.



**Яўген Сухаверх,**
**фрылансер, Маладзечна:**

– Праблем не бачу, асартымент хацелася б шырэйшы. Да сітуацый, калі паскардзіцца хацелася, не даходзіла. Але ўзгадаю выпадак з бацькам. У «дзевяціпавярхоўцы» яго пакупкі скралі са скрыні. Самому разбірацца было лянота, я быў заняты, але так хацелася накатаць на іх скаргу.



**Настасся Мішына,**
**навучэнка каледжа, Вілейка:**

– Адзінае, што не падабаецца, калі шмат людзей у краме стаіць у адной чарзе, а астатнія касы не працуюць. Пераважна такое бывае ў вялікіх крамах. А яшчэ вельмі часта касы завісаюць.



**Марта Папова,**
**бухгалтар, Маладзечна:**

– Недахоп персаналу або яго дрэнная кваліфікацыя. У асноўным гэта праяўляецца ў тым, што пра тавар ведаюць толькі ў двух-трох характарыстыках, хочацца, каб больш глыбока вывучалі вытворцаў, якасць. Тавар не адпавядае цэннікам або яны ўвогуле адсутнічаюць.



**Дзяніс Баброўскі,**
**манцёр будаўнічых рыштаванняў, Маладзечна:**

– Незадаволеныя і нветлівыя касіры. Мне амаль ніколі не хамяць. Але нельга пускаць на касу прадаўцоў, якія не адпачылі нармальна, бо ў іх выгляд, быццам прадаюць тавар з пекла. Хочацца купіць ім выпіць і падтрымаць.



**Алена Граковіч,**
**старшыня раённай арганізацыі Асвод, медсястра, Вілейка:**

– Этыкеткі, у прыватнасці, на адзенні: маленькі шрыфт, не разбярэш, што напісана. Хамскае стаўленне прадаўцоў да кліентаў. У прадуктовых крамах часта абліваюць кліентаў, не даюць чэкі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№11 (1246) 15.03.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 404. Падпісана ў друк у 9.00 14.03.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.